© PDF: Kamunikat.org 2022 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

# АЛЕГ ПАПОЎ

**Алег Папоў, слаўны савецкі клоун, будзе іграць галоўную ролю ў савецка-французскім фільме, пастаўленым па повесці Вальтэра «Кандзід».**



Алег Папоў штодзень.



Алег Папоў на сцэне.

## БЕЗ ВУГЛОЎ



Апошнім крыкам архітэктанічнай моды Парыжа з'яўляецца жылы дом на 1500 кватэр. Каб было больш па-сучаснаму, дом мае кшталт паўзучага змея. Яго даўжыня 560 метраў.

Кажуць, што такая будоўля ашчаджае многа вуглоў.

## Паранены перад нараджэннем

13 год таму назад югаславянская партызанка Рамак, будучы ў апошнім месяцы цяжарнасці, была паранена ў жывот. Гэта не перашкодзіла ёй нарадзіць прыгожага хлопца, які жыве і цяпер. На яго назе відаць шрам па ране, якую ён атрымаў перад нараджэннем.

# ГОРАД ЭЛЕКТРЫЧНАСЦІ

(Працяг са стар. 3).

На новым электрагіганце праектыроўшчыкі вырашылі скарыстаць, так званую, блочную сістэму. Гэта значыць, што кожны кацёл станцыі будзе злучаны толькі з адным турбагенератарам, а турбагенератар — з адным павышаючым трансфарматарам.

Такая схема забяспечвае большую надзейнасць у час працы. Выхад аднаго блока са строю ці затрыманне яго на рамонт ніколі не адаб'ецца на рабоце другіх агрэгатаў ГРЭС.

Усе тэхналагічныя працэсы на новым электрагіганце будуць механізаваны і аўтаматызаваны. У кацельных, напрыклад, зусім не патрабуецца фізічны труд. Савецкімі інжынерамі сканструяваны выдатныя рэгулятары сілкавання, якія аўтаматычна падтрымліваюць нармальны ўзровень вады ў катле. Дзякуючы гэтаму, ён дае такую колькосць пары, якая неабходна для турбіны.

Да моманту пуска першай чаргі ГРЭС будуць узведзены лініі перадач з Бярозы на Брэст, Мінск, Гродна, Пінск, Баранавічы, Ліду.

З узвядзеннем Бярозаўскай станцыі ўсе электрастанцыі Беларусі будуць ахоплены адзінай кругавой высакавольтнай сістэмай. Гэта сістэма ў далейшым будзе аб'яднана з адзінай высокавольтнай сеткай СССР — скарочана АВС. Адзіная высокавольтная сетка — гэта тысячы электрастанцый цеплавых і гідраўлічных, аб'яднаных у грандыёзную энергетычную сістэму, якая магчыма толькі ва ўмовах сацыялістычнай планавай гаспадаркі.

Так, за гады сямігодкі з'явіцца на захадзе нашай краіны новы электрагігант. Але, каб замыслы праектыроўшчыкаў пераўтварыліся ў жыццё, вельмі многа працы павінны ўкласці будаўнікі. Па магутнасці Бярозаўская ГРЭС, безумоўна, значна ўступае найвялікшым нашым электрагігантам. І будаўнікам Бярозы, зразумела, прыходзіцца працаваць зусім у другіх умовах, чымсьці, скажам, будаўнікам Брацка. Але, ўсё ж ёсць нешта агульнае паміж самай усходняй і самай заходняй электрабудоўлямі.

З чаго пачыналі будаўнікі Брацкай ГЭС? З пакарэння тайгі, з будаўніцтва жылля, з пракладкі дарог, са стварэння вытворчай базы. А ці ж не з гэтага прыйшлося пачынаць тым, хто стварае бярозаўскую электрастанцыю? Праўда, у нас у Беларусі не бывае такіх суровых маразоў, як у Сібіры. І нашы лясы не параўнаць з таёжнымі.

Але ж ці лёгкая справа пакарэнне беларускіх балот? Ці ж простая рэч пракладка дарог праз балоты, будаўніцтва ліній электраперадач? Толькі земляных работ будаўнікам Бярозаўскай ГРЭС трэба выканаць 7 мільёнаў кубічных метраў.

А гэта ж прыходзіцца рабіць ва ўмовах балотных грунтаў, дзе малейшая абыякавасць можа надоўга вывесці са строю тэхніку.

Звычайна ў нашым уяўленні вялікая стройка звязана са шматлікімі падсобнымі прадпрыемствамі: бетоннымі заводамі, прадпрыемствамі металаканструкцый, будаўнічых дэталяў. Без іх немагчыма, здавалася б, узвесці горад электрычнасці. Але ўсё ж на Бярозаўскай ГРЭС мы не знойдзем усіх гэтых заводаў. Упершыню ў гісторыі нашай Радзімы будаўнічая пляцоўка буйнай электрастанцыі ператворана амаль поўнасцю ў зборачную. Тут знойдуць прымяненне самыя перадавыя метады, набытыя савецкімі будаўнікамі, самая шырокая механізацыя асноўных і дапаможных работ.

Тэхніка і тэхніка — куды ні глянеш. Па тэрмінова пабудаваным дарогам туды і назад носяцца дзесяткі самазвалаў, снуюць скрэперы і бульдозеры. Зараз ідзе рыццё катлагана для галоўнага корпуса. Адначасова будуецца падводзячы канал ад возера да станцыі і адводзячы — назад у возера: творчая думка інжынераў і тэхнікаў накіравана на тое, каб усе работы праводзіць эканомна, разумна, з найвялікшай карысцю.

В. МІХАЙЛАЎ




### ТОЛЬКІ ДЛЯ ЗАКАХАНЫХ

Нядаўна я пазнаёміўся з Зінай, мілай прыгожай дзяўчынай. Мне яна вельмі спадабалася. Я ёй таксама прыпаў да спадобы і мы пачалі сустракацца. Нездоўга я пазнаёміўся і з бацькамі Зіны. Стаў жаданым госцем у іх хаце. І ўсё было б добра, аднак мне надта не спадабалася ва ўсім гэтым адна справа. Не спадабалася мне, што ў хаце Зіны было брудна, што заўсёды на кухні многа смецця, што брудныя вокны. Найбольш адпіхала мяне тое, што неаднойчы я бачыў у Зіны і брудную шыю. Мяне асабліва непакоіла, што маці Зіны і сама Зіна не звяртаюць увагі на гэта.

Я вырашыў шчыра расказаць Зіне, што хіба аб жаніцьбе няма чаго нам гаварыць, бо не цярплю бруду. Зіна заплакала і абяцала, што будзе старацца, каб мне ва ўсім дагадзіць.

Ці можна верыць Зіне, парадзь, Сэрцайка!

М. С.

Трэба верыць Зіне, што яна паправіцца і будзе дбаць пра чысціню і парадак. Верыць трэба таму, што яна кахае цябе. А калі кахае, то для каханай асобы можа зрабіць усё, каб ёй падабацца і можна змяніцца. Важнае што кахаецеся, а ўсё іншае можна ўладзіць.

Зразумела, што ў выпадку Зіны найбольшая віна з боку яе маці, якая не выхавала дачку ў любві да парадку, ладу, чысціні. Зіне, як чалавеку маладога пакалення, не трэба ісці яе следам. І яна так зробіць у імя твайго і свайго кахання.

**ЯК ЗАГІНУЛА СТАЛІЦА МАРСКІХ РАЗБОЙНІКАЎ З XVII СТАГОДДЗЯ? АДКАЗ ЗНОЙДЗЕШ НІЖЭЙ.**

# ГОРАД НА ДНЕ МОРА

(Пачатак у папярэднім нумары).

Горад прачынаўся позна. Так было і ў гэты дзень. Купцы ўжо паднімалі жалезныя шторы сваіх магазінаў. На вуліцы пачынаўся рух. У вахценых карабельных журналах зроблена пакуль што адна толькі запісь. «Сёмага чэрвеня 1692 года».

Прабіла 10 гадзін. Чыстае яснае неба над Порт-Райялем раптам акрасілася чырванаватым колерам, паплылі цяжкія цёмныя хмары. Пачуліся глухія грымоты, якія ўсё мацнелі.

Горад уздрыгануў. Затрышчэлі будынкі, з грохатам паваліліся дахі. Енкі і крыкі людзей змяшаліся з воем ашалеўшых сабак. Падалі сцены. З акон і дзвярэй выскаквалі поўадзетыя людзі.

Мора пачало заліваць берагі, вада зрывала караблі з якараў. Хлынуў дождж, забушаваў буран. Ручаі вады несліся па вуліцах, вырывалі дрэвы з карэннямі. З грохатам ударыла вялізарная маланка, а за ёй усё новыя і новыя вогненныя стрэлы выпускала на горад чорнае неба. Вуліцы залівалі лівень і мора. Успыхнулі пажары на ромавых* і цукровых фабрыках.

Тры штуршкі, адзін мацнаей другога, страсянулі паміраючы горад. Зямлю раскалолі сотні гіганцкіх трэшчын шчылін і праглынулі дамы і людзей.

Набегшы з мора вал пакрыў большую частку горада. У вадзе барахталіся людзі. Некаторым удалося ўзабрацца на адзіны ўцалеўшы ваенны карабель «Суон». На ім знайшлі збаўленне каля 200 чалавек — гэта ўсе, хто перажыў апошні дзень Порт - Райяля.

Заклўшы ўвесь горад, мора не пакінула яго; яно замкнулася над ім навекі. З кожным годам астаткі Порт - Райяля ішлі ўсё далей у глыб мора, пакуль на яго месцы не засталося нічога, што б прыпамінала даўнюю сталіцу піратаў.

Прайшоў год, і тут пачаў будавацца новы горад — Кінгстон. На Ямайку перыядычна абрушваліся стыхіі. У 1712, 1722, 1772 г. г. над востравам праносіліся аграмаднай сілы бураны. У 1815 годзе катастрафальны пажар, знішчыў большую частку новапабудаванага Кінгстона. Паўвека назад, 14 студзеня 1907 г., Ямайку ізноў наведала вялікае землетрасенне.

Зараз вядуцца шырокія доследныя працы над патануўшым Порт-Райялем.

*) ромавых — ад слова ром — гатунак спіртнага напітку.



## „ДУЭЛЬ" МАРСКІХ ЗВЁЗД

Найперш — прывітанне па ўсім рыцарскім правілам: кончыкі «рапір» кранаюцца зямлі і праціўнікі скланяюцца ў паклоне.

Рапіры скрэшчаны. Першы ўдар удала адбіты і ваяўнікі разышліся.

Праціўнікі ўвайшлі ў азарт. Калі біцца дык біцца.

Бітва прадаўжалася доўга. Нарэшце адзін з фехтавальшчыкаў зрабіў лоўкі скачок і нанёс рашаючы ўдар свайму праціўніку. Пераможца трыумфуе!



© PDF: Kamunikat.org 2022 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022



Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя прарвала ланцуг імперыялізма і нанесла па сусветным капіталізме такі магутны ўдар, ад якога ён ужо ніколі не акрыяе.

---

## ВОКНЫ САТЫРЫ РОСТА




Малюнак М. Чэрэмныха (Масква) 1921 г.

### ЛОЗУНГ 8-ай СТАРОНКІ

У вёсцы ёсць Максім Усёведай,
Яго завуць энцыклапедыяй.
Вясёлы ён і ведае ўсё на дзіва.

— Бо я, браткі, чытаю «Ніву», —
Гаворыць горда наш Максім, —
Выпісваць «Ніву» раю ўсім!!!




## ПОЛЬКА

**ПРА ЧЫЖОЎСКІЯ СУПРАЦЬПАЖАРНЫЯ ЯМЫ. (НА МЕЛОДЫЮ ПОЛЬКІ «НАЙДУ, НАЙДУ ЯСЮ МІЛЫ»)**

То ндбайства самай стражы,
А таксама і сялян,
Што ў такой вялікай вёсцы,
Натварыўся балаган.

Супроць лютага пажару
Накапалі многа ям,
Бо хацелі так сяляне...
Камендант хацеў так сам.

І стаяць яны, як пасткі,
Не абстаўлены нічым,
Ужо дзінё ў адну папала,
А ў другую ўпаў Максім.

Вось упала б там жанчына,
Дык хапіла б гора ўсім.
Навучыла б і стражакаў,
Дала б жару і сваім.

Свінні падаюць таксама,
І цяляты, і каты.
Ці пажарнікі забылі,
Што на свеце ёсць платы?

Калі так, то мы прыпомнім,
Што пара абгарадзіць.
Ні калецтва, ні купанне
Не павінны нам грозіць!

ЯНКА БЕРАЗАВЕЦ



## ГУМАР ІНШЫХ НАРОДАЎ

### ГЕРМАНСКІ

— Мая жонка прыдумала масу гібкую, як сталь, і цвёрдую як скура.
— Дык што гэта — пластмаса?
— Не, пудынг.

* * *

— Твая жонка бландзінка ці брунетка?
— Не магу сказаць. Гадзіну таму назад яна пайшла ў цырульню і яшчэ не вярнулася.

### РУМЫНСКІ

— Абед не гатовы?! Іду ў сталовую!
— Пацярпі мінутку.
— І будзе гатовы?
— Абед не, але я буду гатовай, у сталовую разам пойдзем.



Савецкі

### НЕДЫСКРЭТНАСЦЬ

Танцавальны вечар у клубе аднаго прадпрыемства. Служачы імкнецца забавіць размовай выпадкова сустрэнутую партнёрку.

— Паглядзіце на гэтага старога балвана, — гаворыць ён, — гэта наш дырэктар. Такога ідыёта я ніколі дагэтуль не сустракаў.

— А ведаеце вы, хто я? — пытае дамачка.

— Не, не ведаю.

— Я жонка вашага дырэктара.

— А ведаеце вы, хто я? — пытае служачы.

— Не.

— Ну, дзякаваць Богу.

## ПОСТ

Некаторыя людзі ўпэўнены, што посныя дні законам божым устаноўлены. Няпраўда. Пасты ўстанаўліваюць Гэсы (Гмінныя спулдзельні). У панядзелкі, аўторкі, у чацвяргі і пятніцы ў мястэчках тарговыя дні. Тысячы людзей круцяцца на кірмашы — прадаюць адно, купляюць другое. Пакуль выберуцца ў далёкую дарогу дахаты, людзі цягнуцца ў гэсаўскія сталовыя, каб перакусіць ды гандлёвай удачай са знаёмымі падзяліцца.

А ў сталовай няма чаго на зуб палажыць. Буфетчыцы рукамі разводзяць. Апраўдваюцца, што цяпер у кухні і мясам не пахне. А людзям хаця б аладкаў насмажыць, варэнікаў з сырам наварыць, ды ў смятане ўтапіць. Пірагоў бы з капустай нарыхтаваць. Толькі адна бяда: работнікі грамадскага харчавання не хочуць вазіцца з гэтым.

Лягчэй тлумачыцца недахопам мяса, чым закаціць рукавы і папрацаваць. Нядаўна ў Міхалове такі выпадак быў. Два сябры спатkаліся ў сталовай. Адзін высокі, другі — малы.

У сталовай закускі і на паказ няма, а выпіўка выстаўлена.

— Зробім паўлітра, — прапануе малы.

А высокі пытае:

— Пад што ж піць будзем? Ні хваста ад селядца, ні гуркоў солёных не відна.

— Пад мануфактуру вып'ем, вырашае малы і налівае паўшклянкі гарэлкі.

Выпіў, кракнуў, выцер губы рукавом і заахвочвае:

— Пі, браток, пад мануфактуру.

У кожным мястэчку маюцца нелегальныя «меліны», дзе посту не прытрымліваюцца.

Такія парадкі толькі ў гэсах вядуцца.

У часніка заўсёды знойдзецца гарачая катлетка для закусачкі, вумяная рыбка ды агурчык у прыдачу, зразумела, ў два разы даражэй, за прыватную ініцыятыву.

Выходзіць, што работнікі грамадскага харчавання на ўзроўню сваёй пасады знайшліся. Гандлёвыя планы гарэлкай выконваюць і з радасці казлом скачуць. Людзі на кірмашы хацелі б нагрэць нос у шклянцы чаю.

Але навошта Гэсам браць залатоўку за шклянку гарачага чаю, калі могуць узяць 30 зл. за шклянку халоднай гарэлкі.

І што ж, людкі вы мае, пакуль што ў кірмашныя дні прыходзіцца з хаты браць курынае крылка, або кусок сваёй каўбаскі.

Цьфу, цьфу не ўзяць бы граху на душу з-за скаромных думак.

У посныя дні аб каўбасах думаць — гэта толькі нячыстаму духу на здавальненне.

Дзядзька Левап.